Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
комн. № 405.
тэл. № 23-287.

№ 31 | Год выдання 1-ы | 30 лістапада 1935 г. | № 31

## Важнейшая задача Райунутгандляў—павесці рашучую барацьбу з фактамі замарожвання і разбазарвання тавараў хлебазакупачнага фонда

Закупкі хлеба ў БССР працякаюць адносна не дрэнна. На 10-е лістапада 1935 г. 28 раёнаў БССР поўнасцю выканалі план хлебазакупак. Набліжаюцца да выканання 21 раён і т. д. Можна безпамылкова сцвярджаць, што ў гэтым годзе план хлебазакупак выконваецца непараўнаўча лепш, чым у мінулым годзе.

Усё гэта з'яўляецца рэзультатам перамог нашай партыі ў барацьбе за большэвіцкае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, за высокі ўраджай, які ўзнімае добрабыт калгаснай вёскі, пабуджаючы яе лішкі хлеба прадаваць пролетарскай дзяржаве і выклікаючы ў яе павышаныя запатрабаванні на прамысловыя тавары шырокага спажывання.

Совецкая дзяржава, ідучы насустрач інтарэсам працоўных вёскі, вылучыла для стымулявання прадажы хлеба значныя масы дэфіцытных тавараў. Даволі паказаць, што для атаварвання хлебазакупак у БССР наш урад вылучыў у IV-м квартале 1935 г. 400 аўтамашын, 3.500 веласіпедаў, патэфоны, жалеза, цвікі і рад іншых тавараў.

Гэта з'яўляецца нагляднай ілюстрацыяй таго, як наша партыя і ўрад на справе задавальняюць растучыя матэрыяльныя і культурныя патрабаванні шырокіх мас калгаснага сялянства.

Практычнае ажыццяўленне ўсіх мерапрыемстваў па хлебазакупкам і іх атаварванню ўрад усклаў на спажывецкую кааперацыю. Гэта абавязвае яе арганізаваць работу такім чынам, каб у максімальнай меры стымуляваць продаж хлеба. Гэта азначае хуткае давядзенне вылучаных таварных фондаў да прадаўцоў хлеба і скарыстанне гэтых фондаў па прамому прызначэнню.

Не дапускаць замаражвання таваразвароту і разбазарвання фондаў для атаварвання хлебазакупак—вось тыя асноўныя патрабаванні, якія сёння прад'яўляюцца спажывецкай кааперацыі.

Аднак, праверка хода хлебазакупак, праведзеная Камісіяй Совецкага Кантроля і Наркамунутгандлем БССР паказала, што паасобныя звенні спажывецкай кааперацыі замаражваюць тавары на сваіх базах, затрымліваючы іх прасоўванне да прадаўца хлеба. Больш таго, асобныя „горе-кааператоры" дазваляюць сабе разбазарваць вылучаныя дзяржавай для хлебазакупак таварныя фонды.

Звернемся да фактаў.

Гатунковае жалеза для Менскага Райсаюза праляжала на Менскай базе Белкаапсаюза 10 дзён.

На Слуцкай базе БКСаюза на працягу цэлага месяца праляжалі без руху 11 скрынак аконнага шкла і 27 скрынак цвікоў, прызначаных для атаварвання хлебазакупак па лініі Слуцкага Райсаюза.

Не лепш абстаіць справа з прасоўваннем тавараў з Райсаюзаў у сельпо. У Ельскім Райспажыўсаюзе аконнае шкло праляжала 8 дзён, а боты ў колькасці 40 пар—8 дзён. Аналагічныя факты мелі месца ў Талачынскім і радзе іншых Райспажыўсаюзаў.

Усе гэтыя факты сведчаць аб адсутнасці з боку рада Райсаюзаў і межрайбаз БКСаюза барацьбы за выкананне пастановы СПА аб хуткім прасоўванні тавараў хлебазакупачнага фонда.

Абследваннем таксама выяўлены выпадкі разбазарвання тавараў хлебазакупачнага фонда. Загадчык Гарадоцкага культмага **Ульянава** адпусціла адзін веласіпед бухгальтару Інкубатарнай станцыі і другі—бухгальтару Райфо.

Упаўнаважаны закупхлеба па Бабруйскаму раёну **Ермалаеў** распарадзіўся адпусціць з хлебазакупачнага фонда Даманавіцкаму лесаўчастку адзін веласіпед і работнікам міліцыі гадзіннік, два патэфона і 120 пласцінак.

У Талачынскім раёне загадчык Райзага выдаў начальніку станцыі 15 лістоў шкла і т. д.

Наркамунутгандаль БССР гэтыя матэрыялы накіраваў у органы пракуратуры для прыцягнення вінаватых да судовай адказнасці. Віноўныя ў разбазарванні тавараў хлебазакупачнага фонда павінны

панесці суровае пакаранне, як за зрыў важнейшых мерапрыемстваў партыі і ўрада.

Неабходна адзначыць, што выяўленыя абследваннем агіднасці ў справе прасоўвання тавараў да прадаўца хлеба ў значнай меры мелі месца дзякуючы таму, што паасобныя Райунутгандлі адхіліліся ад нагляду за прасоўваннем тавараў хлебазакупачнага фонда. Аб гэтым гаворыць публікуемая ў гэтым нумары Бюлетэня пастанова Наркамунутгандля БССР, налажыўшага рад спагнанняў на свае мясцовыя органы.

Адсюль Райунутгандлі павінны зрабіць палітычны і практычны вывад, актывізуючы сваю работу па ўстанаўленню штодзённага нагляда за прасоўваннем фондаў па атаварванню хлебазакупак з тым, каб не дапускаць іх разбазарвання і залежвання ў „бюракратычных закавулках так званай тавараправодзячай сеткі—у баку ад спажыўца“ (СТАЛІН).

Неадкладнае рэагаванне на выяўленыя факты разбазарвання тавараў хлебазакупачнага фонда і іх замаражвання ў відзе прымянення самых суровых мер уздзейнічання, із'яцця тавараў ад незаконна атрымаўшых іх паасобных арганізацый і асоб, і зварота іх у гандлёвую нізоўку для давядзення да прадаўца хлеба—павінна стаць адной з асноўных задач Райунутгандляў. Хутка давесці тавары хлебазакупачнага фонда да прадаўца хлеба—вось куды павінна быць зараз накіравана ўвага Райунутгандляў.

Неабходна таксама павесці барацьбу з паасобнымі фактамі скарыстання па лініі атаварвання хлебазакупак такіх тавараў, якія не маюць адпаведнага эквівалента ў наменклатуры хлебазакупачнага фонда. У тых выпадках, калі наяўныя таварныя фонды, у сілу сваёй ходкасці, могуць быць скарыстаны для атаварвання хлебазакупак, Райунутгандлі павінны ўзбудзіць гэта пытанне перад Наркамунутгандлем БССР з мэтай устанаўлення на гэтыя тавары пэўнага эквівалента, і толькі пасля гэтага такія тавары могуць быць пушчаны па руслу атаварвання хлебазакупак.

Поспех хлебазакупак цалкам і поўнасцю залежыць ад саміх гандлюючых арганізацый, ад іх умення хутка прасунуць тавар да прадаўца хлеба і ў значнай меры ад органаў НКУГандля, якія не апошняе месца павінны заняць у гэтай адказнай справе.

# У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

Наркамунутгандаль БССР вылучыў у апараце Горрайунутгандляў асноўных раёнаў сваіх адказных прадстаўнікоў, на якіх ускладзены абавязкі па хутчэйшаму прасоўванню тавараў хлебазакупачнага фонда з баз Белкаапсаюза ў гандлёвую нізоўку.

* * *

У сувязі з выяўленнем рада кампраментуючых матэрыялаў у адносінах дырэктара Слуцкага аддзялення Белхарчгандля **Эціна**,—Наркамунутгандаль БССР прапанаваў дырэктару Бабруйскай канторы Белхарчгандля т. **Міерыну** неадкладна адхіліць **Эціна** ад работы, часова ўсклаўшы выкананне абавязкаў дырэктара Слуцкага аддзялення Белхарчгандля на ўпаўнаважанага Наркамунутгандля па Слуцкаму Гарпо т. **Прэсмана**.

* * *

Наркамунутгандаль БССР прапанаваў усім Горрайунутгандлям правесці сумесна з начальнікамі станцый праверку разгортвання прыстанцыйных калгасных базараў для ўпарадкавання абслугоўвання пасажыраў на ўсіх чыгуначных станцыях і водных прыстанях.

* * *

Прыдаючы велізарнае значэнне справе прымянення ў гандлёвай сетцы штучнага холада для захавання хутка-псуючыхся прадуктаў, Наркамунутгандаль БССР прапанаваў Праэктнаму бюро распрацаваць тыпавыя праекты халадзільных прылаўкаў і шафаў, а дырэктарам Белхарчгандля, „Бакалеі“ і „Гастранома“—прадставіць спіс магазінаў для абсталявання іх халадзільнымі ўстаноўкамі.

* * *

Загадам па НКУГандлю і НКАховы здароўя БССР прапанавана дырэктарам гандлёвых аб'яднанняў і загадчыкам магазінаў арганізаваць сумесна з Горрайздравамі каротка-тэрміновыя курсы для праходжання сан-тэхмінімума работнікамі харчовых магазінаў па дасланай праграме з разліку 12 вучэбных гадзін. Да здачы экзамена па сан-тэхмінімуму работнік да работы не дапускаецца.

* * *

У мэтах скарыстання вызваляючайся з-пад розных тавараў тары Наркамунутгандаль БССР вылучыў аўтарытэтную камісію для вывучэння пытання рамонта і скарыстання тары.

* * *

Арганізавана Рэспубліканская камісія па прыёмцы і перадачы Наркамунутгандлю БССР гаспадаркі Заготканторы ЛСПО ў БССР.

* * *

Наркамунутгандаль БССР прыцягнуў да адказнасці дырэктара Менскай базы Ваенгандля т. **Палея** за павышэнне цэн на адгружанае ім Рэчыцкаму ЗВК пячэнне.

* * *

Загадчыкам аддзела ўнутранага гандля па Мазырскай акрузе прызначан т. **Шпілёў**, па Слуцкай акрузе—т. **Шведзік** і па Лепельскай акрузе—т. **Мохарт**.

* * *

Арбітрам Наркамунутгандля БССР прызначан т. **БАРКОЎСКІ**

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## За разбазарванне тавараў хлебазакупачнага фонда—да судовай адказнасці

### ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

15 лістапада 1935 г. **№ 414** г. Менск

Па паведамленню Райунутгандля Гарадоцкага раёна ўстаноўлена, што прыбыўшыя веласіпеды на атаварванне хлебазакупак у Гарадоцкі райкультмаг, былі адданы па квітанцыям калгаса загадчыкам магазіна **Ульянавай**—адзін веласіпед бухгальтару Інкубатарнай станцыі і адзін веласіпед бухгальтару Райфо. Такое разбазарванне веласіпедаў з'яўляецца злейшым відам дыскрэдытацыі справы атаварвання хлебазакупак.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Прыняць да ведама паведамленне заг. Райунутгандля т. **Масарскага**, што веласіпеды былі із'яты міліцыяй у той-жа дзень пасля праверкі і звернуты магазіну, а віноўныя пераданы суду.
2. Прасіць пракурора рэспублікі даць указанне Гарадоцкаму Райпракурору аб паскарэнні прыцягнення да судовай адказнасці віноўнікаў.
3. Папярэдзіць усіх загадчыкаў Горрайунутгандляў, што выяўлены факт разбазарвання веласіпедаў у Гарадоцкім раёне ўскладае на заг. Райунутгандляў вялікую адказнасць за жорсткасць кантроля, які павінен быць з боку Райунутгандляў за тым, каб тавары пайшлі па прызначэнню, прадаваліся выключна сапраўдным прадаўцам хлеба.
4. Папярэдзіць усіх упаўнаважаных Наркамунутгандля па базам БКС, вызначаных загадам Наркамунутгандля БССР ад 13/XI за № 407, што яны нясуць адказнасць за несвоечасовае накіраванне тавараў хлебафонда, прыбываючых у МРБ у цэласці і сахраннасці да РСС, не дапушчаючы затрымкі больш 3-х дзён.

Народны Камісар Унутранага
Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

---

## Райунутгандлі адказваюць за своечасовае прасоўванне тавараў хлебазакупачнага фонда нараўне са старшынямі Райсаюзаў

### ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

16 лістапада 1935 г. **№ 413** г. Менск

Не гледзячы на дырэктывы Наркамунутгандля БССР, дадзеныя ўсім Горрайунутгандлям аб наглядзе і кантролю за прасоўваннем тавараў хлебазакупачнага фонда 13/X—35 г. № ХЗ—3 і ад 5/XI—35 г. № ХЗ—3 і аб мерапрыемствах па барацьбе з разбазарваннем тавараў хлебазакупачнага фонда ад 17/X—35 г. № ХЗ—3 і ад 4/XI—35 г., пастановай № 807,—некаторыя Райунутгандлі, як Клімавічы, Шклоў, Рагачоў і інш.—да гэтага часу не праслалі ніводнага паведамлення аб ходзе прасоўвання тавараў і аб праверцы фактаў продажы па прызначэнню, што сведчыць аб тым, што гэтыя Райунутгандлі гэтым пытаннем не займаюцца.

ЗАГАДВАЮ:

1. Заг. Лёзнянскага Райунутгандля т. **Кагану** за невыяўленне меўшыхся фактаў выдачы старшынёй РСС Ступаковым скрынкі шкла хлебазакупачнага фонда Райсовету АСО—абвясціць вымову.
2. Заг. Дубровенскага Райгандля т. **Пеўзнеру** за невыяўленне фактаў затрымкі тавараў на базах РСС, а гэтыя факты былі ўскрыты толькі з прыездам прадстаўніка Наркамунутгандля Саюза т. **Максімава**—абвясціць суровую вымову.
3. Бабруйскаму Райгандлю т. **Багдановічу** за невыяўленне ім фактаў разбазарвання тавараў хлебазакупачнага фонда ў РСС і сельпо—і гэтыя факты былі ўскрыты толькі з прыездам прадстаўніка Камісіі Савецкага Кантроля, што сведчыць аб адсутнічанні пільнасці з боку вышэйадзначаных Райунутгандляў у справе барацьбы за своечасовую адпраўку тавараў хлебафонда і барацьбы за тое, каб тавары накіроўваліся і былі праданы імення прадаўцам хлеба—паставіць на від.
4. Клімавіцкаму Райунутгандлю т. **Безлюдаву**, Шклоўскаму Райунутгандлю т. **Захарэнка**, Рагачоўскаму Райунутгандлю т. **Асновіну**, Быхаўскаму Райунутгандлю т. **Старавойтаву**, Талачынскаму Райунутгандлю т. **Белавжыцкаму**—за непрадстаўленне інфармацый аб ходзе прасоўвання тавараў хлебазакупачнага фонда і атаварванні—паставіць на від. Папярэдзіць, што калі імі ў бліжэйшую дэкаду не будзе выпраўлена і не ўзята пад асабісты кантроль прасоўванне тавараў хлебазакупа,—да іх будуць ужыты больш суровыя меры ўздзейнічання.
5. Папярэдзіць усіх загадчыкаў Горрайунутгандляў, што яны нясуць адказнасць нараўне з старшынёй Райспажыўсаюза—за тое, каб тавары былі накіраваны своечасова ў сельпо і што ў выпадку выкрыцця фактаў разбазарвання, па якім імі не будуць прыняты меры, да іх будуць ужыты самыя суровыя меры спагнання.

Народны Камісар Унутранага
Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

# Аб дапушчэнні сельскай рознічнай сеткі Белгандля да рэалізацыі тавараў, пераключаемых на атаварванне хлебазакупак

## Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР і Прэзідыума Белкаапсаюза

17 лістапада 1935 г. **№ 853** г. Менск

На падставе тэлеграфнага распараджэння Наркома Унутранага Гандля СССР **т. Вейцера** і старшыні Цэнтрасаюза СССР **т. Зеленскага** ад 15/XI—35 г. за №14714, —Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР і Прэзідыум Белкаапсаюза—пастанаўляюць:

1. Дапусціць сельскую рознічную сетку Белгандля да рэалізацыі ў парадку атаварвання хлебазакупак, тавараў аднаіменных з наменклатурай тавараў хлебазакупачнага фонда.

Рэалізацыя ўтвараецца як з маючыхся ў сетцы наяўных тавараў, таксама і з тых, якія паступяць у сетку Белгандля ў чацвертым квартале 1935 г.

2. Прапанаваць дырэктару Белгандля **т. Кантару** тэрмінова арганізаваць па сваёй сельскай сетцы паказаную рэалізацыю ў поўнай адпаведнасці з парадкам, устаноўленым для рэалізацыі тавараў хлебазакупачнага фонда па сетцы спажывецкай кааперацыі з правільным атаварваннем квіткоў хлебаздачы і ўстаўленнем аднолькавай з сельпо справаздачнасці перад Райхлебгандлем—Райсаюзам.

3. Устанавіць, што атаварыныя квіткі здаюцца крамамі Белгандля ў адпаведны Райспажыўсаюз і што крамы Белгандля вядуць работу па атаварванню пад кантролем Белканторы Саюзхлебгандля і раённых упаўнаважаных Хлебгандля.

4. Абавязаць нам. начальніка Белканторы Саюзхлебгандля **т. Лесіна** па ўзгадненню з дырэктарам Белгандля на працягу двух дзён давесці да кожнай сельскай крамы Белгандля Інструкцыю па справаздачнасці і аб парадку атаварвання квіткоў, устаноўленаму для сеткі спажывецкай кааперацыі БССР.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

Старшыня Прэзідыума Белкаапсаюза— Начальнік Белканторы Саюзхлебгандля **БАСКІН**

---

# Шырока арганізаваць продаж высокагатунковых хлеба-булачных вырабаў ва ўсіх гарадах і раённых цэнтрах БССР

## Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР і Упаўнаважанага Камітэта загатовак СНК СССР пры СНК БССР

29 кастрычніка 1935 г. **№ 781** г. Менск

На падставе пастановы СНК БССР ад 26/IX—35 г. (прат. № 22, п. 53), пастановы НКУГандля СССР ад 17/X—35 г. № 1085 і пастановы НКУГ СССР і Камітэта загатовак пры СНК СССР ад 21/X—35 г. за № 1103/4145 аб дазволу прадажы хлеба-булачных вырабаў з пшанічнай мукі 30-проц. і 75-проц. памола па ўсіх гарадах, рабочых пасёлках і райцэнтрах БССР, — Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР і Упаўнаважаны Камітэта загатовак пры СНК СССР па БССР пастанаўляюць:

1. Абавязаць Белхарчпрамсаюз тэрмінова арганізаваць пасіленне выпечкі хлеба-булачных вырабаў, вышэйшых гатункаў па ўсіх сваіх пякарнях, дзе выпечка ўжо вытвараецца (Быхаў, Горкі, Гарадок, Дзяржынск, Клімавічы, Мсціслаў, Рагачоў, Слуцк, Сенно, Шклоў, Асіпавічы, Бешанковічы, Глуск, Дрыса, Копыль, Лёзна, Парычы, Плешчаніцы, Узда, Чырвоная Слабада, Чашнікі), а таксама не пазней 15/XI—35 г. арганізаваць выпечку гэтых вырабаў дадаткова ў Асвеі, Смілавічах, Смалявічах, Пухавічах, і Любані.

2. Абавязаць Белкаапінсаюз тэрмінова пасіліць выпечку хлеба-булачных вырабаў з мукі вышэйшых гатункаў ва ўсіх сваіх пякарнях, дзе выпечка ўжо арганізавана (Петрыкоў, Лёзна, Талачын, Хойнікі, Чашнікі, Чарэя), а таксама не пазней 15/XI—35 г. дадаткова арганізаваць выпечку гэтых гатункаў у Бярэзіне, Чырвонаполлі, Крупках, і Лагойску.

3. Абавязаць Белкаапсаюз па лініі нетрэсціраванага хлебапячэння тэрмінова пасіліць выпечку высокасортных хлеба-булачных вырабаў ва ўсіх сваіх пякарнях, дзе выпечка ўжо вытвараецца (Быхаў, Ветка, Горкі, Гарадок, Добруш, Дуброўна, Дзяржынск, Крычаў, Клімавічы, Лепель, Мсціслаў, Петрыкоў, Рагачоў, Сенно, Чэрвень, Чаусы, Чэрыкаў, Шклоў, Бягомль, Бялынічы, Жыткавічы, Заслаўе, Копыль, Касцюковічы, Карма, Лоеў, Прапойск, Старыя Дарогі, Тураў, Узда, Халопенічы, Хойнікі, Чырвоная Слабада), а таксама безадкладна арганізаваць выпечку гэтых гатункаў ва ўсіх астатніх райцэнтрах, дзе высокагатунковыя вырабы яшчэ не выпякаюцца і ў першую чаргу, не пазней 15 лістапада ў наступных пунктах: Сіроціна, Сураж, Уваравічы, Ушачы, Церахоўка, Чачэрск, Буда-Кашалёў, Багушэўск, Ельск, Камарын, Клічаў, Лельчыцы, Нароўля, Расоны, Старобін.

4. Прапанаваць усім Горрайунутгандлям і Райупаўнаважаным Камітэта загатовак СНК актыўна садзейнічаць і дапамагчы паказаным хлеба-выпякаючым арганізацыям у справе асваення выпечкі высокагатунковых вырабаў і дабіцца выпуска ў продаж гэтых хлеба-булачных вырабаў не пазней 15/XI—35 г., а дзе гэта магчыма—да Октябрскага свята.

5. Устанавіць звычайны парадак падачы заявак-заказаў на муку для выпечкі гэтых вырабаў і размер водпуску гэткай, як гэта ўстаноўлена для ўсіх гатункаў хлеба.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

Упаўнаважаны Камзаг СНК СССР пры СНК БССР **С. Гваздзецкі**

# Шырока разгарнуць гандаль дастатковымі бакалейнымі таварамі

## Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

2 лістапада 1935 г. **№ 802** г. Менск

Вытваранай праверкай па г. Менску ўстаноўлена, што ў гандлёвай сетцы Горспажыўсаюза (№№ 80, 20, 67, 16 і 82) і Менхарчгандля (№№ 52, 32, 35, 59 і 29) адсутнічае перац, гарчыца, лаўровы ліст, уксус, уксусная эсенцыя і інш.

Адзначаючы, што факт адсутнічання вышэйпамянёных бездэфіцытных тавараў масавага попыта з'яўляецца вынікам адсутнічання аперацыйнага кантроля з боку дырэктара Менхарчгандля т. **Рыся** і старшыні Горспажыўсаюза т. **Крэйніна** ў справе арганізацыі гандля вышэйпаказанымі таварамі,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць кіраўнікоў Менхарчгандля т. **Рыся** і Горспажыўсаюза т. **Крэйніна** прыняць неадкладныя меры да поўнага забеспячэння гандлёвай сеці дастатковымі бакалейнымі таварамі (гарчыца, соль, перац, лаўровы ліст, уксус, уксусная эсенцыя і інш.

2. Даручыць т. т. **Крэйніну** і **Рысю** ўстанавіць, што ў бакалейных магазінах у абавязковым парадку бесперабойна павінна быць у асартыменце соль, запалкі, перац, гарчыца, сода, лаўровы ліст, уксус, уксусная эсенцыя і інш. Аб наяўнасці гэтых тавараў у магазіне вывесіць у крамах аб'явы на відных месцах.

3. Папярэдзіць кіраўнікоў вышэйпамянёных арганізацый, што калі гандлёвая сетка на працягу 5 дзён не будзе поўнасцю забяспечана дастатковымі таварамі, яны будуць прыцягнуты да адказнасці.

4. Абавязаць Гарраўунутгандлі вытварыць праверку насычанасці гандлёвай сеці бакалейнымі таварамі, прыняць неадкладныя меры да забеспячэння імі спажыўцоў і па прыкладу г. Менска ўнядрыць п. 2-гі нашай пастановы.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

# Ліквідаваць сабатаж у справе гандля гароднінай

## ПАСТАНОВА

## Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР і Ўпаўкамзага пры СНК СССР па БССР

5 лістапада 1935 г. **№ 813** г. Менск

На праведзенай нарадзе пры Наркамунутгандлі БССР 5/XI—35 г. з удзелам прадстаўнікоў Белкаапплодагародніны і Белзаготплодагародніны, Упаўкамзага і гандлюючых арганізацый выяўлена, што не гледзячы на неаднаразовыя ўказанні Наркамунутгандля і спецыяльнае рашэнне СНК ад 4/X—35 г. аб разгортванні шырокага гандля гароднінай і заквасцы капусты,—да гэтага часу з боку некаторых гандлюючых арганізацый (Віцебскі, Бабруйскі, Полацкі ЦРК) маецца яўны сабатаж у выкананні ўстаноўленага плана СНК па заквасцы капусты і наогул адмаўленні ад атрымання гародніны і асабліва капусты, што ставіць пад пагрозу зрыва бесперабойны гандаль гароднінай на працягу круглага года.

Выходзячы з вышэйпаказанага і ў выкананне тэлеграфнага распараджэння Саюзнаркамунутгандля і Упаўкамзага пры СНК СССР,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР і Ўпаўкамзаг СНК СССР па БССР пастанаўляюць:

1. Прыняць да ведама заяву прадстаўніка БКПГ т. **ІГНАТКОВІЧА** і нам. кіраўніка БЗПГ т. **ЛІЎШЫЦА**, што імі будуць прыняты ўсе меры, каб у бліжэйшыя адну-дзве дэкады адгрузіць гарадам БССР гародніны згодна ўстаноўленага плана СНК і Наркамунутгандля БССР.

2. Прапанаваць пад асабістую адказнасць упаўнаважаных Наркамунутгандля па ЦРК, дырэктароў кантор Белплодагароднінгандля і Харчгандля, Нач. ТПУ, НКВД, Нач. Ваенгандля і Нач. ОРС'а на працягу двух дзён пацвердзіць БКПГ і БЗПГ заяўкі і рэквізіты на гародніну ў адпаведнасці з устаноўленым для іх планам Наркамунутгандлем, і забяспечыць поўную выбарку вызначаных ім фондаў гародніны па цэнтралізаванаму плану.

3. Абавязаць кіраўнікоў гандлюючых арганізацый забяспечыць тэрміновую загрузку ўсёй сеці гандлюючай гароднінай, поўным асартыментам гародніны і прыняць самыя канкрэтныя меры па вышуканню дадатковых падвалаў і гароднехавальнікаў і тэрміновай іх загрузкі гароднінай для хавання на зімовы час.

Папярэдзіць кіраўнікоў гандлюючых арганізацый, што пры выяўленні адсутнасці гародніны ў гандлёвай сетцы, віноўныя будуць прыцягнуты да самай суровай адказнасці.

4. Указаць загадчыкам Горунутгандляў—Менска—т. **Саф'яну**, Гомеля—т. **Салаў'ю**, Віцебска—т. **Краскіну** Магілева—т. **Моіну**, Бабруйска — т. **Багдановічу**, Барысава—т. **Пахомаву**, Оршы—т. **Баскіну**, Полацка—т. **Петрашкевічу**, Мазыра — т. **Варгаўчыку**, Рэчыцы—т. **Шведзіку**, што з іх боку не было ўдзелена належнай увагі пытанням гандля гароднінай і падрыхтоўцы сеці да зімовага гандля.

Абавязаць асабіста загадчыкаў Горунутгандля ўзяць пад свой непасрэдны кантроль ход гандля гароднінай, аказаўшы практычную дапамогу гандлюючым арганізацыям у забеспячэнні іх патрэбнасцей гароднехавальнікамі.

5. Абавязаць дырэктара БКПГ т. **Зелічонка** і кіраўніка БЗПГ тав. **Анікейчыка** кожныя пяць дзён інфарміраваць Наркамунутгандаль і Ўпаўкамзаг аб ходзе выбаркі гародніны гандлюючымі арганізацыямі.

Горунутгандлям прасачыць за выкананнем гэтай пастановы, не пазней 13-га лістапада паведаміць Наркамунутгандлю аб яе выкананні.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

Упаўкамзаг СНК СССР па БССР **ГВАЗДЗЕЦКІ**

# За абарону інтарэсаў спажыўца

## Загад па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля СССР

5 лістапада 1935 г. **№ 1805** г. Масква

Разборам скаргі гр. **Нечаевай** на недобрасумленнае выкананне магазінам „Мосгастраном" № 1 заказа на карзіну з фруктамі — устаноўлена:

1. Нам. загадчыка фруктовай секцыяй магазіна № 1 т. **Махаў** улажыў у карзіну некаторыя фрукты другіх гатункаў у той час, як заказчыку былі абяцаны „лепшыя фрукты", пад чым заказчык разумеў бязумоўна фрукты выключна першага гатунка.

2. У агульным кошту карзіны з фруктамі (119р. 58 к.), спагнанай з заказчыка — кошт карзіны, кветкоў і інш. афармлення складае 74 р., а кошт тавара (фруктаў) усяго толькі 45р. 58к., аб чым заказчык не быў папярэджан.

3. З боку дырэкцыі магазіна не ўстаноўлен належны кантроль за выкананнем заказаў, маючых сугуба спецыяльнае назначэнне, якімі з'яўляюцца заказы на мастацка-аформленыя карзіны з фруктамі.

Загадваю:

1. Улічваючы, што гр. **Нечаева** не была папярэджана аб тым, што кошт карзіны і афармлення складае 74 руб.—звярнуць гр. **Нечаевай** кошт карзіны і афармлення ў суме 74 руб.

2. Нам. загадчыка фруктовай секцыяй магазіна № 1 т. **Махаву**, улажыўшаму ў карзіну некаторыя фрукты другіх гатункаў у той час, калі заказчыку былі абяцаны выключна „лепшыя" фрукты—абвясціць суровую вымову і папярэдзіць яго, што пры паўтарэнні падобных выпадкаў да яго будуць прымянены больш суровыя меры спагнання.

3. Дырэктару магазіна № 1 „Мосгастранома" т. **Вішніцэру** асабіста даць тлумачэнне гр. **Нечаевай** аб адбыўшымся.

4. Улічваючы, што ўбранне адпускаемага тавара кветкамі, лентамі і інш. не ўваходзіць у асноўныя задачы магазіна — прапанаваць т. **Вішніцэру** ў далейшым пры прыёмцы аналагічных заказаў аплату за кветкі, ленты і інш. спаганяць асобна, а таксама ўстанавіць кантроль, забяспечваючы належнае выкананне гэтых заказаў.

Народны Камісар Унутранага
Гандля Саюза ССР **ВЕЙЦЕР**

---

# Віноўнікаў ігнаравання гандля сольлю—да адказнасці

## Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

1 лістапада 1935 г. **№ 792** г. Менск

У адпаведнасці з загадам Саюзнаркамунутгандля за № 1661 ад 9/X—35 г. п. 3.—па пытанню аб абнаружанні ў час праверкі Дзяржаўнай гандлёвай інспекцыяй у Слуцку адсутнічання солі, пры наліччы на базе Белкаапсаюза да 2 000 тонн солі,—мною дадаткова вытваранай праверкай устаноўлена:

1. Што канкрэтнымі віноўнікамі адсутнічання солі ў гандлюючых арганізацыях г. Слуцка з'яўляюцца:

па лініі Белгандля —т. **Крэдытор**,
„ „ Белхарчгандля —т. **Гольдзін**,

за што стаўлю на від т.т. **Крэдытору і Гольдзіну.**

2. Таксама выяўлена, што віноўнікам з'яўляецца Бабруйскае аддзяленне Белхарчгандля, абслугоўваючае г. Слуцк, за што абвясціць вымову нам. дырэктара Бабруйскай базы т. **Тынькову.**

3. У адпаведнасці з рашэннем Саюзнаркамунутгандля і дадатковай праверкай Наркамунутгандля БССР, якой устаноўлена, што па лініі Белкаапсаюза вінаватымі ў непрадажы солі з'яўляюцца таварышы: **Леен і Бельскі,**—перадаць старшыні Прэзідыума Белкаапсаюза т. **Баскіну** на разгляд пытанне аб прыцягненні паказаных тт. да адказнасці і аб прынятых мерах паведаміць мне.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

---

# ЦЭНЫ

## Аб накідках у карысць гандлёвых баз прамысловасці

### Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля Саюза ССР і Народнага Камісарыята Харчовай Прамысловасці Саюза ССР

4 лістапада 1935 г. **№ 1182/103** г. Масква

У сувязі з тым, што аптовыя базы прамысловасці па цукру, мясу, мясапрадуктам, хатняй бітай птушцы, маслу жывотнаму і раслiннаму, маргарыну, мясным і мясараслінным кансервам і па рыбе выпіску рахункаў пакупнікам вытвараюць не па рознічным, а па адзіным поясным адпускным цэнам,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля СССР і Народны Камісарыят Харчовай Прамысловасці Саюза ССР пастанаўляюць:

1. Замест устаноўленых пастановай Наркамунутгандля і Наркамхарчпрома СССР ад 11 кастрычніка 1935 г. за № 1044/87 скідак з рознічных цэн у

карысць аптовых баз прамысловасці, устанавіць з 1-га кастрычніка 1935 г. накідкі на ўстаноўленыя адзіныя поясныя адпускныя цэны ўкарысць аптовых баз прамысловасці ў наступных размерах:

а) па цукру — пры водпуску з баз Саюзцукрзбыта . . . . . . . . . . . . . . 0,5 проц.
б) па мясу, мясапрадуктам, жывотным тлушчам, калбасным вырабам і капчонасцям пры водпуску з баз Саюзмясазбыта . . 0,2 „
в) па хатняй бітай птушцы пры водпуску са складаў . . . . . . . . . . . . . 0,22 „
г) па маслу жывотнаму пры водпуску з баз прамысловасці і Цэнтрамолзбыта . 0,21 „
д) па маслу раслiннаму пры водпуску са збытавых баз і завадскіх бакаў Саюзрасмаслазбыта . . . . . . . . . . . 3,6 „
е) па прадукцыі маргарынавай прамысловасці пры водпуску з баз і складаў на тону. . . . . . . . . . . . . . . 50 руб.
Таксама пры водпуску транзітам на тону . 20 „
ж) па рыбе пры водпуску з баз Саюзрыбзбыта . . . . . . . . . . . . . . . . 4,75 проц.
па рыбе пры транзітных адгрузках . . 0,6 „
з) па мясным кансервам (тушонка і філе) пры водпуску са складаў і баз Саюзкансервзбыта: . . . . . . . . . . .
1) Па сістэме Галоўпрадмага . . . . . 0,86 „
2) Па іншым сістэмам . . . . . . . . . 1,29 „
Па мясным кансервам (тушонка і філе) пры транзітных адгрузках . . . . . . . . 0,32 „
Па іншым мясным і мяса-раслінным кансервам і па кансервам—бабы са свініной,—пры водпуску са складаў і баз Саюзкансервзбыта:
1) Па сістэме Галоўпрадмага . . . . . . 1,0 „
2) Па іншым сістэмам . . . . . . . . . . 2,2 „
Па іншым мясным і мяса-раслінным кансервам і па кансервам—бабы са свініной—пры транзітных адгрузках . . . 0,55 „

**Увага:** Пры водпуску транзітам цукру, мяса, мясапрадуктаў, жывотных тлушчаў, калбасных вырабаў, капчонасцей, масла раслiннага, а таксама хатняй бітай птушкі—налічэнні ўкарысць гандлёвых баз прамысловасці не вытвараюцца.

2. З увядзеннем у дзеянне гэтай пастановы адмяніць пастанову Наркамунутгандля СССР і Наркамхарчпрома СССР ад 11 кастрычніка 1935 г. за № 1044/87.

Нам. Народнага Камісара Ўнутранага Гандля Саюза ССР **З. Балоцін**

Нам. Народнага Камісара Харчовай Прамысловасці Саюза ССР **ЛЕВІТАН**

## Адзіныя рознічныя цэны на рыбтавары

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля СССР

5 лістапада 1935 г. **№ 1186** г. Масква

У дадатак да пастаноў Наркамунутгандля СССР ад 28/IX—35 г. і № 1063 ад 15/X—г. г.—устанавіць з дня атрымання гэтай пастановы на мясцох адзіныя рознічныя цэны на ніжэйнаступныя рыбтавары (у руб. і кап. за 1 *кг* 1-га гатунка):

| Назва тавараў. | Руб. | Кап. |
|---|---|---|
| **Сельдзі імпартныя:** | | |
| Ярмуцкія . . . . . . . . . . . . | 6 | 20 |
| Фінляндскія . . . . . . . . . . . . | 6 | — |
| Ісландскія . . . . . . . . . . . . | 6 | — |
| **Тавары мурманрыбы:** | | |
| Цёша окуневая салёная . . . . . . . | 1 | — |
| **Філе окуня марскога:** | | |
| Парное і марожанае . . . . . . . . | 3 | 80 |
| Салёнае . . . . . . . . . . . . | 4 | — |
| **Палтус з башкой:** | | |
| Парны і марожаны . . . . . . . . . | 3 | 20 |
| Салёны . . . . . . . . . . . . | 2 | 70 |
| Цёша трэсковая салёная . . . . . . . | 1 | — |
| Плечыкі трэсковыя салёныя . . . . . . | — | 50 |
| **Ерша марскі:** | | |
| Мурманрыбы і Севдзяржрыбтрэста: . . . . | — | — |
| Парны і марожаны . . . . . . . . | 1 | 60 |
| Салёны . . . . . . . . . . . . | 1 | 20 |
| **Тавары паўднёвых вадаёмаў:** | | |
| Чэхонь Азова-Чорнаморск: | — | — |
| Паравога капчэння буйная . . . . . . | 5 | 50 |
| Неразбор і сярэдняя . . . . . . . . | 4 | 40 |
| **Вобла атбой ніжэй 13 см:** | | |
| Парная і марожаная . . . . . . . . | 1 | — |
| Маласол і калодка . . . . . . . . . | — | 80 |
| Уклея салёная . . . . . . . . . . | — | 80 |
| **Тавары ДВК:** | | |
| Касатка парная і марожаная . . . . . . | 2 | — |
| Ленок парны і марожаны . . . . . . | 2 | 50 |
| Верхагляд парны і марожаны . . . . . . | 3 | 50 |
| Ікра кетавая ястычная . . . . . . . | 12 | — |
| **Сельдзі:** | | |
| Івасі абезглаўленыя цёплага пасола . . . | 5 | — |
| Івасі абезглаўленыя ахалодж. і ледніковага пасола | 6 | — |
| **Сельдзь прыморская і Сахалінская Шотландскага пас.** | | |
| Вясенняя і летняя . . . . . . . . . | 5 | — |
| Асенняя і зімовая . . . . . . . . . | 6 | — |

### 2. ПРЫРАЎНЯЦЬ ЦЭНЫ:

а) на камбалу Мурманрыбы—к цэнам, устаноўленым на камбалу Севдзяржрыбтрэста;
б) на сігі Карэлдзяржрыбтрэста—к цэнам сігаў Севдзяржрыбтрэста;
в) на сельдзь данскую—к цэнам на сельдзь данскую палумерную;
г) на сельдзь сосвінскую кілечнага пасола—к цэнам на сельдзь сосвінскую—спецпасола;
д) на сельдзь ахотскую—к цэнам на сельдзь камчатскую;
е) на цюльку з прымессю камсы—к цэнам на цюльку без прымесі ерша;
ж) на ікру нельмы—к цэнам на ікру язевую;
з) на максун салёны Далёка-усходніх вадаёмаў—к цэнам на максун салён. Обскага раёна;
і) на тушу ласосевую салёную і кураную—к цэнам на ласасіну капчоную—адпаведных вадаёмаў;
к) на карп зеркальны акрамя жывога—к цэнам на сазан мёрзлы.

3. Цэны на маласолы Обскага раёна, не пералічаныя ў прэйскуранце, прыраўняць к цэнам, устаноўленым на стопавы пасол адпаведных відаў і навескі рыбы гэтага раёна.

Нам. Наркамунутгандля СССР

**З. БАЛОЦІН**

# Ліквідаваць living рознабой у цэнах на адны і тыя-ж тавары

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

9 лістапада 1935 г. **№ 817** г. Менск

Праверкай, вытваранай Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыяй у Электразбыце, ГУМ'е, Горспажыўсаюзе, Менгандлі і БАКТ'е, выяўлена:

а) што паміж рознічнымі цэнамі, існуючымі ў Электразбыце на электратавары і рознічнымі цэнамі на гэтыя-ж тавары ў іншых гандлюючых арганізацыях існуе значны разрыў. Напрыклад, электрычны чайнік у Электразбыце прадаецца па 35 руб., а ў ГУМ'е, Менгандлю і Горспажыўсаюзе—па 41р. 60 к. і т. д.;

б) што разрыў у рознічных цэнах наогул мае месца, таму, што ўсе гандлюючыя арганізацыі (за выключэннем Электразбыта) парушылі пастановы СПА ад 5/VII—35 г. і Наркамунутгандля СССР аб тым, што на тавары, пералічаныя ў пастанове СПА за № 436 ад 5/VII—застаецца абсалютны размер гандлёвай накідкі, які існаваў да павелічэння цаны прамысловасці на гэтыя вырабы.

Гандлюючыя арганізацыі (у тым ліку і БАКТ па адыё-таварам) працягвалі прымяняць стары процант гандлёвай накідкі да новых павышаных адпускных цэн;

в) што кіраўнікі гандлюючых арганізацый (ГУМ—**т. Дуберштэйн**, Менгандаль—**т. Броништэйн, БАКТ—т. Любіч**) не выконваюць пастановы Наркамунутгандля СССР аб тым, што яны павінны правяраць і зацвярджаць калькуляцыі на ўсе тавары. Замест гэтага яны цалкам перадаверылі гэту работу тэхнічным работнікам—калькулятарам, якія, не ўсвядоміўшы пастановы Наркамунутгандля СССР аб размеры накідак, працягвалі прымяняць стары процант гандлёвай накідкі, у выніку чаго мела месца масавае парушэнне цэн на электратавары, радыё-тавары і прымусы;

г) што Горунутгандаль (**т. Саф'ян**) не ажыццяўляе кантроля за дзейнасцю гандлюючых арганізацый у частцы цэн.

ПАСТАНАЎЛЯЮ:

1. Прыняць да ведама, што згодна пастановы Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі, стварыўшыйся перабор ад пакупнікоў у размеры 15 тыс. рублёў праз Гарфо із'ят у дзяржбюджэт.

2. Папярэдзіць тт. **Дуберштэйна, Броништэйна** і **Любіча**, што ў выпадку невыканання імі пастановы НКУГ аб парадку калькуляцыі рознічных цэн на тавары, яны будуць прыцягнуты да адказнасці.

3. Прапанаваць тт. **Дуберштэйну, Крэйніну, Броништэйну** і **Любічу** накласці спагнанне на работнікаў, устанавіўшых няправільныя рознічныя цэны на электра і радыё-тавары.

Копіі сваіх загадаў даслаць у Дзяржаўную Гандлёвую Інспекцыю не пазней 15/XI—35 г.

4. Гарадскі Аддзел Унутранага Гандля не заўважыў, што ва ўсіх гандлюючых арганізацыях мае месца масавае павышэнне цэн, а таксама разрыў у цэнах на электра-тавары, радыё-тавары, што сведчыць аб слабым кантролі за работай гандлюючых арганізацый у частцы цэн, за што загадчыку Горунутгандля **т. Саф'яну** зрабіць рашучае папярэджанне.

5. Прапанаваць **т. Камянецкаму** ўстанавіць, па ўзгадненні з гандлюючымі арганізацыямі, адну цану на кожны з тавараў, пералічаных у дададзеным да пастановы СПА прэйскуранце з тым, каб не было рознабоя ў цэнах.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

---

# Аб скідках па продажу окаркаў і рулетаў

## РАСТЛУМАЧЭННЕ

### Аддзела Арганізацыі Гандлёвай Сеці Наркамунутгандля БССР

У сувязі з запытаннямі аб скідках па продажу окаркаў і рулетаў, Аддзел Арганізацыі Гандлёвай Сеці і рэгулявання цэн Наркамунутгандля БССР растлумачвае, што скідкі на продаж гэтых вырабаў утвараюцца з рознічных цэн у наступных размерах:

| | Па окарку варанаму | Па рулету кап. варан. |
|---|---|---|
| 1. Скідка на шкурку | 5 проц. | — |
| 2. Скідка на косць з сухажыллямі, у гэту скідку ўваходзіць кошт ліквіднай (прадажнай) часткі касцей з сухажыллямі | 18 „ | 10 проц. |
| 3. Гандлёвая скідка ў карысць гандлюючых арганізацый | 7,3 „ | 7,3 „ |
| Усяго скідка з рознічнай цаны | 30,3 проц. | 17,3 проц. |

Гэта скідка складае розніцу паміж рознічнай і аптова-адпускной цаной.

| | | |
|---|---|---|
| **Прыклад:** Рознічная цана 1 *кг* чыстага прадукта | 17 р. 50 к. | 17 р. 50 к. |
| Адпускная цана 1 *кг* з касцямі і шкуркай | 12 „ 20 „ | 14 „ 47 „ |
| Агульная скідка | 5 р. 30 к. | 3 р. 0,3 к. |
| У тым ліку скідка на скурку і косць | 4 р. 0,2 к. (23 проц.) | 1 р. 75 к. (10 проц.) |
| Гандлёвая скідка ў карысць гандлюючых арганізацый | 1 „ 28 „ (7,3 проц.) | 1 „ 28 „ (7,3 проц.) |

Нач. Аддзела Арганізацыі Гандлёвай Сеці і рэгулявання цэн НКУГ БССР **КАМЯНЕЦКІ**

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-ы паверх, пак. 405, тэл. 23-287.
Адк. рэдактар I. I. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.
Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 1347. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 2958.